Янка Галубовіч

# Шчодрая вавёрка



*Казкі*

МІНСК
ВЫДАВЕЦКІ ДОМ «ЗВЯЗДА»
2015

# ЗЯЗЮЛЯ ДЗЕТАК ШУКАЛА

Нізка над полем абвіслі цёмныя хмары. Вуркатаў гром. На ўскрайку лесу вецер зрываў з бярозак жоўтае лісце. Ірваў тонкія павуцінкі.

«Змокну я тут, як навальніца пачнецца», — падумала зязюля і паляцела ў гушчыню лесу.

Доўга ці мала ляцела зязюля, аж сустрэла на сваім шляху прыгажуна белабровіка. Жывоцік у гэтага дразда белы з бурымі стракацінамі, а над вочкамі шырокія вохрыста-белыя бровы.

— Куды ляціш, зязюля? — пытае белабровік.

— Дык і ты во ляціш некуды, — адгукнулася тая.

— Я па справе. Дразда-дзярабу ў госці клікнуў. У вырай хутка, дык чаму і не сабрацца разам перад дарогай? І цябе, зязюля, запрашаю.

— Дзякуй, белабровік. Я палячу з табой, — радасна пагадзілася зязюля.

Прыляцелі яны на светлую палянку, непадалёк ад якой стаяў каржакаваты дуб. Ля дуба чыстая крынічка бруілася.





— Вось тут я жыву, — сказаў белабровік. — Ты, зязюля, знаёмся з гасцямі, а я зараз буду вас пірагом частаваць.

Зграбная берасцянка паважна кіўнула зязюльцы блакітнай галоўкай і павяла яе знаёміць са сваімі дочкамі — чатырма жвавымі маладзенькімі берасцяначкамі.

Завіталі ў госці да белабровіка са сваімі дзеткамі і канаплянка, і зелянушка, і сіваграк. Толькі фанабэрысты ўдод адзін прыляцеў.

З усімі гасцямі пазнаёмілася зязюля. Хораша, весела было сярод іх.

Хутка на палянку апусціўся з сынамі дрозд-дзяраба і адразу ж пачаў дапамагаць гаспадару засцілаць белым настольнікам шырокі дубовы пень. На чысты настольнік белабровік паклаў вялікі пірог з брусніцамі.

— Частуйцеся, госцейкі, будзьце як дома. Адзін з'еш хоць вала — адна хвала. Частуйцеся, усім хопіць.

Першымі па ладным кавалку пірага атрымалі берасцянкі. Не пакрыўдзіў гаспадар і іншых гасцей.

— Ой які духмяны, які смачны пірог! — радавалася маладзенькая шэра-зялёная зелянушка.





— Праўду гаворыш, сястрыца, такога пірага мы таксама ніколі не каштавалі, — падтрымалі зелянушку канаплянкі.

Госці ласаваліся пірагом і запівалі яго чыстай вадзіцай з крыніцы. А потым на палянцы ўсчаўся канцэрт. Госці разам з гаспадаром-белабровікам рашылі так: кожнаму сямейству пець па чарзе, каб потым вызначыць самых лепшых і галасістых артыстаў.

Берасцяначкі запелі першымі:

— Фіт-фіт-ля-ля-ві-чыў-кік! — звінела, як вясною, прыгожая песня птушак.

Зладжана пяюць берасцяначкі, як па нотах!

— Чжый-чжый-чжый! — стараліся адна перад адной зелянушкі.

— Тк-тк-тк! — шчабяталі канаплянкі.

Удод пець наадрэз адмовіўся. Сказаў, што як ляцеў сюды, то напіўся з крыніцы халоднай вадзіцы і ахрып.

Скончыў пець дзяраба са сваімі сынамі, падышла зязюльчына чарга.

— Сястрыца, а дзе ж твае дачушкі? — запытала ў зязюлі зелянушка.

— І праўда, зязюля, чаму дачок з сабою не ўзяла? — дадаў дзяраба.

Зязюля зніякавела, не ведала, што і адказаць.





— Такой бяды, хай адна кукуе, — заступілася за яе канаплянкі.

— Не, адна кукаваць не буду, — не згаджалася зязюля. — Вы пачакайце крыху, а я палячу дзетак пашукаю. Мы хуценька вернемся.

Узмахнула крыламі зязюля і паляцела. Прыляцела да малінаўкі, паглядзела на пустое гняздо і пытаецца:

— Скажы, малінаўка, дзе мае дзеці падзеліся? Я ж вясною ў гэта гняздзечка чатыры яечкі паклала.

Малінаўка здзівілася няпрошанай госці і гаворыць:

— Гэта маё гняздо, зязюля. Якая ж ты маці, калі пра сваіх дзетак нічога не ведаеш?

Сорамна стала зязюлі. Нічога не сказала яна малінаўцы. Толькі ўзмахнула крыламі і далей паляцела.

Доўга ці мала ляцела зязюля, ажно сустрэла прыгожую птушачку: на маленькай беленькай галоўцы чорная шапачка, хвосцік у птушкі доўгі і таксама чорны, спінка шэрая, а брушка белае.

— Гэта ж белая сітаўка! — пазнала птушку зязюля і ўспомніла, што і ў яе гняздо тры яечкі падклала.





Спытала зязюля ў белай сітаўкі пра сваіх дзетак, а тая і гаворыць ёй:

— Мае дзеткі, дзякуй богу, жывыя і здаровыя. Заўтра ў вырай адлятаем. А пра тваіх, зязюля, нічога сказаць не магу.

Кульнулася з галінкі зязюля і далей паляцела. Адшукала ў лесе шэрую мухалоўку, але і яна нічым не дапамагла.

Ад мухалоўкі паляцела зязюля да перасмешкі. Расказала ёй зязюля пра сваё гора-бяду, а тая ўважліва выслухала яе ды гаворыць:

— Нядаўна бачыла: праляталі тут тры маладзенькія зязюлі. Але ж ці прызнаюць яны цябе?

Хутка і цямнець пачало. Зусім змаркатнела зязюля, ледзьве крыламі махае, а дзетак сваіх так і не знайшла. Усе госці дамоў разляцеліся, а зязюля і па сённяшні дзень адна кукуе.



# ШЧОДРАЯ ВАВЁРКА

Выглянула вавёрка з гнязда і бачыць: густы морак за сіні ельнік скаціўся, віднецца пачало.

«Гэта ж ранняя птушка, кажуць, дзюбку працірае, а позняя — вочы прадзірае», — успомніла вавёрка і на палянку пабегла.

А на палянцы сунічак, салодкіх і духмяных, еш — хоць распеш ражыся.

Паласавалася вавёрка ягадамі і пачала іх у збаночак збіраць.

Ягадка да ягадкі — і поўны збаночак.

Усё лета рупілася вавёрка. Бо ведала: што летам прызапасіш — зімой як знойдзеш. Акрамя сунічак назбірала малін, ажын. Каля азярца на густыя кусты шыпшыны натрапіла — і яе не прамінула.

Восенню баравікоў насушыла. Пра арэхі і жалуды таксама не забылася.

Ажно ў чатырох дуплах схавала свае запасы вавёрка.

А хутка і зіма прыйшла. Студзень зямлю студзіць, рана лясных жыхароў будзіць.

Прачнулася вавёрка. Вылезла з гнязда і да дупла заспяшалася, у якім яе сунічкі





ляжалі. Скача з галінкі на галінку, ажно раптам палятуху бачыць. Сядзіць тая на паваленай ветрам асіне і плача. А над палянкаю, ад крыку заходзячыся, сойка з арэхаўкай кружаць.

Вавёрка скокнула ўніз і ўраз каля палятухі апынулася.

— Сястрыца, скажы, чаго ты плачаш? — спытала ў яе.

— Як тут не плакаць, вавёрка. Дзікі маю схованку з грыбамі адшукалі. Сойцы з арэхаўкай таксама ніводнага жалуда не пакінулі. Адзін белы снег наўкол, але ж яго не ўкусіш.

— Не бядуйце. Што бог паслаў, тым і пачастую вас. Усім хопіць, — сказала так вавёрка і тут жа паклікала сойку з арэхаўкай.

Нічога не шкадавала вавёрка для гасцей. І сунічкамі іх частавала, і малінамі з ажынамі, і шыпшынаю, і сушанымі баравікамі, і арэхамі з жалудамі.

Завіруха ўзнялася. Ноч на зямлю апусцілася. Вядома ж: зімовы дзянёк што камароў насок. А палятуха, сойка і арэхаўка і не думаюць дамоў спяшацца. Смачна ім у вавёркі, весела.





Але на Мацея, калі зіма пацее, скончыліся ў вавёркі сунічкі.

На саракі, калі пайшла зіма да ракі, скончыліся ў яе маліны.

А на Рыгора, калі зіма пайшла ў мора, скончыліся ажыны з шыпшынаю.

На святога Прыска, калі прабіла лёд хвастом пліска, не стала сушаных баравікоў.

А калі святы Вайцеху выпусціў жаўранка з меху — і арэхі з жалудамі скончыліся.

Але гэта была не бяда. З Вялікадня птушкі пачалі пець, першы раз зязюля закукавала.

Тым часам і май наступіў. А, як кажуць, май — і пад кустом рай.

Так і перажылі зіму дзякуючы шчодрай вавёрцы палятуха, сойка і арэхаўка.



## ВЕРАБЕЙ — ДОБРАЕ СЭРЦА

На адным возеры, багатым на рыбу, з высокімі алешынамі па берагах, жыла-была выдра. Лавіла ўволю шчупакоў, лінёў, ляшчоў. Адным словам, як у бога за пазухай пачувала сябе на возеры выдра.

Жылі яшчэ на возеры чарапаха з хахуляй. Яны маленькую рыбку лавілі, тым і карміліся. Але выдры такое суседства не спадабалася. Яна прагнала з возера чарапаху з хахуляй.

Аднойчы прыляцеў на возера шэры верабей. Хацеў кропельку вады глынуць, але выдра, калі ўбачыла яго, так засыкала, што той, спалохаўшыся, узмахнуў крыламі — і назад паляцеў.

Восенню ў возера, у якім раскашавала выдра, прыплыў з вялікай, моцна сплюшчанай галавой, велізарным ротам і даўжэзнымі вусамі страшыдла-сом. Выдры загадаў рыбы не лавіць, а толькі ракамі карміцца. Але ж рак — не рыба. А раніцою, калі сом прачынаўся, і вечарам, як у сваю глыбокую яму спаць клаўся, выдра мусіла кожны раз яму вусы гладзіць.







Не жыццё стала ў выдры, а няволя. Спачатку хацела пабіцца з сомам, але потым перадумала. Яно ж вядома: з моцным не біся, а з багатым не судзіся.

А сом тым часам зусім выдры на карак сеў. Загадаў вусы і днём гладзіць.

Усё цярпела выдра, не шукала бяды, але яна сама да яе прыйшла.

Аднойчы сом, лежачы на баку, шчупакоў ўплятаў, а выдра яму вус гладзіла. Вельмі ўжо захацелася ёй таксама шчупака пакаштаваць. Сказала пра гэта гаспадару, а той як вызверыцца:

— Не тваім зубам гэта кусаць.

Заплакала выдра дый кажа:

— Вунь палятуха хоць хвойку жуе, затое на волі жыве. Пайду я ад цябе, сом. Надакучыла мне рабыняй быць.

Сом пляснуў со злосці хвастом па вадзе дый кажа так:

— Свет вялікі: што хочаш, тое і рабі.

Праз дзень выдра сышла з возера. І не стала ў яе ні двара ні кала.

А хутка і зіма наступіла. Куды ні зірні — снег. Дрэвы скурчаныя сіберным ветрам. Холадна, няўтульна.

Доўга блукала выдра па лесе, прытулку шукаючы. Есці хочацца — хоць гвалт крычы. Каму салжэш, а кішцы — ніколі.

Ведала выдра, што непадалёку ад возера жылі ў сваіх норах чарапаха з хахуляй, але пайсці да іх не асмелілася. Выбралася яна так-сяк на ўзлесак дый заснула пад ядлоўцавым кустом.

Раніцою ляцеў над узлескам шэры верабей. Глядзіць, ажно пад кустом знаёмая выдра ляжыць. Ледзьве дыхае.

Спалохаўся верабей, паклікаў сойку з арэхаўкай. Сталі яны радзіцца, як выдры дапамагчы.

— У мяне дупло вялікае, але зімна у ім, хоць ваўкоў ганяй, — прамовіла арэхаўка.

— І я сваім жытлом пахваліцца не магу, — дадала сойка.







— Выйсце ёсць! Да зайкі з выдрай будзем прасіцца. Вунь яго хатка стаіць. Там і печкі і лаўкі, — радасна абвясціў шэры верабей.

Усю ноч не адыходзіўся ад выдры шэры верабей. То вады ёй на цёплую печку падасць, то заечай капусты прынясе.

А як доўгая ноч — дзікай казе не пераскочыць — скончылася, выдра на ногі паднялася. Пазнала яна шэрага вераб'я і кажа так:

— Добрае ў цябе сэрца, верабей. Каб не ты, прапала б я ад холаду і голаду. А за мой учынак каля возера — прабач. Сорамна мне за яго.



## КАЗА І ЧМЯЛІ

У бярозавым гаі, дзе крынічка срэбным раўчуком цякла, не год і не два жыла-была дзікая каза. Аднойчы вечарам ля крынічкі каза ваўкоў убачыла, спалохалася шэрых разбойнікаў і падалася новы прытулак сабе шукаць.

Доўга ці мала блукала па лесе каза, ажно на палянку выбілася. А на палянцы той сярод маладзенькіх дубкоў і кучаравых арабінак цёмна-чырвонымі кветачкамі густа канюшына цвіла.

«Кажуць: на чужыне і камар загіне. Ажно не. Праўда, тут крынічкі няма, але затое канюшыны многа. Лепшага месца мне і не знайсці», — узрадавалася каза.

Пабудавала яна хатку пад арабінкаю і стала жыць на палянцы. Багатаму чорт дзяцей калыхае. Так яно і з казою атрымалася. Праз нейкі час непадалёку ад палянкі яна балотца знайшла. Канюшынкай удосталь паласуецца — і да балотца на вадапой ідзе. Адным словам, гора-бяды каза не ведае. У сваёй хатцы як у бога за пазухай жыве.

Аднаго разу сядзела каза на ганку, заходам сонца любавалася, а калі цямнець





пачало, паднялася і спаць пайшла. І на адзін бачок павернецца, і на другі, а заснуць ніяк не можа. «Гэта ж цэлы дзень сонейка пякло, — успомніла каза. — Горача ў хатцы. Трэба акенца адчыніць».

Адчыніла каза акенца і зноў спаць лягла. Зажмурыла вочкі дый чуе:

— Жу-у, жу-у, жу-у...

Спалохалася каза, ажно з ложка ўскочыла. Села на краёчак і думае:

— Хто ж гэта трывожыць мяне, спаць не дае?

Пасядзела так крыху і лягла. Толькі вочкі зажмурыла, дый зноў чуе:

— Жу-у, жу-у, жу-у...

Цэлую ночку каза не заснула. А ранічкаю, як толькі развіднела, глядзіць, ажно на акенцы чмель сядзіць. Вялізны такі, калматы, з жоўтай паласой на спіне. Падышла каза да акенца, а чмель як загудзіць:

— Жу-у, жу-у, жу-у...

Разгарнуў крыльцы і да канюшыны паляцеў.

«Во хто мяне спужаў, хто мне спаць не даваў». У казы злосці поўныя косці.



Кінулася яна за чмялём, прыбегла да канюшыны і разгубілася. Чмялёў у канюшыне — як зорак на небе. Усе падобныя адзін да аднаго і ніякай увагі на казу не звяртаюць. Сядзяць на кветачках ды пылок збіраюць.

Стаіць каза, злуецца і не ведае, дзе таго чмяля шукаць, які ёй ноччу спаць не даваў.

— Каб мае вочы лопнулі, калі свайго крыўдзіцеля не знайду! — сказала каза і ў канюшыну скокнула. Да самага вечара за чмялямі гойсала, але свайго крыўдзіцеля не знайшла.

Стамілася, ледзьве дыхае. А чмялі, як толькі сонейка пачало заходзіць, сталі ў свае норкі злятацца.

Убачыла каза, дзе чмяліныя норкі знаходзяцца, зарадавалася:

— Дзе сілай не ўзяла, там розумам надтачу. У вашых норках і распраўлюся з вамі.

І пачала каза капытамі чмяліныя норкі дратаваць.

Чмялі ўбачылі, што іх гнёзды разбураюць, ды спрабавалі бараніць сваё жытло. Але дзе ім з казою справіцца...





Пазлаваліся, пагулі ды з палянкі зляцелі новае месца шукаць. І не стала каму канюшыну апыляць. І перастала на палянцы канюшына расці.

А каза пагаладала крыху — і таксама з палянкі падалася. Без канюшыны і балотца з вадзіцай ёй непатрэбным стала.



## ХТО ПРЫГАЖЭЙШЫ?

Як толькі скончылася навальніца, а неба перасталі крамсаць маланкі і за пушчу гром скаціўся, на ракітавы кусцік прыляцелі дзве страказы. Бабка зялёная і бабка бронзавая. Сядзяць і крылцы на сонцы сушаць.

Хараша, светла кругом. Побач ручаёк цурчыць. Вада ў ім крынічная, як крышталь. У бярэзніку зязюлька кукуе.

Глынула кропельку вады бабка зялёная і зноў на ракіту села. Заварушыла, забліскала пукатымі крыўдлівымі вочкамі дый кажа:

— Надакучылі ўжо мне зязюльчыны песні. Вылупіцца, як сава, і барабаніць, што пустая бочка. Ажно ў вушах рэжа. Ні паглядзець на яе, ні людзям паказаць. Падобная, як свіння да лебедзя, а красуняй сябе лічыць. Во я — сапраўдная прыгажуня! Харошая, як кветка, — пачала хваліць сябе бабка зялёная. — Крылы мае ружовыя — што прапелеры, ніхто не дагоніць. Цела гнуткае, зваблівае.

Бабка зялёная хваліла сябе яшчэ, але раптам пачуўся тоненькі піск, чымсьці падобны на плач дзіцяці. Стракозы на-



сцярожыліся і ўбачылі, што ў іх бок ляціць пчала, а за ёй гоніцца люты вораг — пчаліны воўк.

— Ага, кабыла з ваўком цягалася — хвост ды грыва засталася, — сказала так бабка зялёная, баязліва падціснула хвост і глыбей у ракіту зашылася.

А бабка бронзавая не збаялася пчалінага ваўка. Рынулася яму насустрач, спікіравала і стукнула яго ўсім целам. Раз, другі, трэці… Той і грымнуўся вобземлю.

Пчала адпачыла крыху на ракітавым кусце, распасцёрла крылцы, каб дамоў, а вулля з пылком ляцець, але тут з-за лісця зялёная бабка паказалася. Падсела да яе, паварушыла крыламі і пачала хваліць сябе:

— Глянь, пчала, якая я прыгожая! Усе стракозы зайздросцяць мне.

А пчала глянула на яе дый кажа:

— Памыляешся, зялёная бабка. Самая прыгожая ў свеце страказа — бабка бронзавая. Акрамя таго яна і смялейшая за цябе.

Не спадабаўся бабцы зялёнай пчаліны адказ. Яна падскочыла з галінкі, быццам яе спружына падштурхнула, і знікла раптоўна, як прывід.





## ДУБ-ЗАДАВАКА

Бегла па сцяжынцы лясная мурашка. Так стамілася, што ледзьве дух пераводзіць. Схавалася яна пад кусцік, каб адпачыць крыху, ажно чуе:

— Куды бяжыш, сястра?

Азірнулася лясная мурашка і бачыць: на сцяжынцы дзве мурашкі сядзяць, а каля іх жолуд ляжыць.

— Ат, і не пытайцеся, — гаворыць. — Спачатку думала, што страказа на пянську сядзіць. Але памылілася. Мурашыны леў, наш спрадвечны вораг, на сонейку грэўся. Ледзьве ўратавалася ад яго.

— А мы во жолуд цягнем. Хочам ля мурашніка дубок пасадзіць.

— Я вам дапамагу.

— Памагай.

Цягнуць яны жолуд утрох. На палянцы яшчэ адну мурашку сустрэлі.

— Што з жолудам будзеце рабіць?

— Дубок каля мурашніка пасадзім.

— А я зернейка клёна знайшла. Давайце разам іх пасадзім.

— Мы не супраць, калі ласка.

Пасадзілі мурашкі ля свайго жытла дубок з кленікам, і яны як на дражджах





пачалі расці. Праз нейкі час ажно да самых аблокаў дацягнуліся.

Дуб, аднак, надта ж задавацца стаў. Аднойчы ранічкай ён гаворыць клёну:

— З маіх жалудоў каву вараць, дзікі і вавёркі імі ласуюцца, а ад цябе, як ад казла, — ні воўны, ні малака.

Лес чуе, а поле бачыць. Пачулі размову, замітусіліся ля мурашніка мурашкі.

— Ну і задавака! Вырас да неба, а дурань як трэба. Каб мог, то клёна, відаць, у лыжцы вады ўтапіў бы.

Клён зніякавеў, ажно лісцікі варушыцца перасталі, але і перад дубам маўчаць не захацеў:

— З маёй драўніны мэблю робяць, а з соку нават цукар здабываюць.

— Няўжо вас кот убрыкнуў? Хопіць спрачацца, — не вытрымалі, пачалі мірыць дуба з клёнам мурашкі. — Абое вы, удальцы-малайцы, слаўныя. І птушкі вас любяць, у госці лятуць. У густых шатрах на скрыпачках і дудачках канцэрты ладзяць. І нам, мурашкам, як толькі пасадзілі вас, весялей жыць стала: здаецца, на сёмым небе ад шчасця апынуліся. Памірыцеся, дзеткі, і будзьце вясёлыя,





як сваты на вяселлі, багатыя, як зямля, і здаровыя, як крынічная вада.

Дубу мурашыныя словы — што гарох аб сцяну. Задрыжаў ад злосці, зарагатаў, ажно рэха па лесе пакацілася, і пачаў на мурашак крычаць:

— Згіньце, каб і вочы мае вас не бачылі! А то дзікоў натраўлю. Яны вам пакажуць, дзе ракі зімуюць. Кузюлькі няшчасныя, падманшчыцы... Гэта яны пасадзілі мяне... І трэба ж такое прыдумаць! Ха-хах-ха! — закалаціўся, зарагатаў дуб-велікан.

Спалохаліся мурашкі, у жытло пахаваліся.

Хутка і восень у сілу ўвабралася. Чупрыну клёна ярка-барвовай фарбай запаліла, а галінкі дуба спелымі жалудамі густа ўсыпала.

Аднойчы ноччу ля дуба дзікі з'явіліся. «Ага, прыйшла пара з мурашкамі расквітацца! — абрадаваўся дуб. — Болей не будуць за клён заступацца».

Скінуў ён дзікам па жолуду і кажа:

— Бачыце мурашнік ля клёна?

— А як жа, бачым, — адказваюць дзікі.

— Тады слухайце, што зрабіць трэба.

— Гавары, дуб, гавары.

— Хачу, каб гэтага мурашніка і блізка каля мяне не было. А як выканаеце за-





гад, шчыра аддзячу вам за гэта. Удосталь жалудамі накармлю.

Кінуліся дзікі да мурашніка, пачалі яго лычамі разграбаць і мурашак есці.

Ранічкай глянуў дуб уніз, дзе мурашнік быў, — а там і знаку ад яго не засталося. Гаворыць клёну:

— Бачыш, мурашак як ветрам здзьмула. Я ўсё магу. Я дуб-асілак.

Клён зашапацеў чупрынаю дый разважае так:

— Жыццё пражыць — песеньку спець. Яшчэ невядома, які лёс у цябе наперадзе. Ты ж усіх мурашак панішчыў, а яны шанавалі цябе, ад розных шкоднікаў аберагалі.

— Я не баюся. Я дуб-асілак. Я любога ў рог скручу, — казаў сваё задавака.

Як у ваду глядзеў клён.

Вясною ў дуба жукі-вусачы пачалі лісты аб'ядаць, а шашалі — цела тачыць. Праз два гады зусім даканалі яго шкоднікі: засох дуб.

Сам вінаваты, задавака.



## ЯК КАЗА-НЯЎДАЛІЦА ЛЕТА ПРАСПАЛА

Жыла-была на палянцы каза. Ды такая працавітая, што пазайздросціць можна. І хатка ў яе да ладу даведзена, і на гумянцо, у якім зімою сена ляжыць, паглядзець люба.

Аднаго разу, калі ручайкі ўгаманіліся, а сонейка зямельку ўгрэла, паднялася рана-раненька каза, паснедала і пачала канюшыну сеяць.

Ужо пад вечар бралася. Скончыла каза работу, прысела пад бярозку, каб передыхнуць, дый сваю суседку ўбачыла. Тая наблізілася да яе і пытае:

— Чаго сядзіш? Ці не начаваць тут сабралася?

— Ды не, во толькі перадыхну трошкі.

— А што рабіла?

— Пад ляжачы камень вада не цячэ. Канюшыну пасеяла.



— А я дык і не спяшаюся. І табе раю запомніць: не ўсякі дзень лыка дзярэцца. Сёння мне знаёмы барсук казаў, што яшчэ мароз будзе.

Сказала так каза-суседка і далей прыпусцілася.

«Во няўдаліца, — падумала каза-рупліўка пра сваю суседку. — У хаце страха цячэ і печ не пячэ, а ёй хоць бы што. Гойсае з ранку да вечара без работы. То ад янота з гасцей не вылазіць, то да барсука за парадай бяжыць. Але, як кажуць, у людзей пытай, ды свой розум май».

Зацвіла канюшына, чырвонымі галоўкамі заківала. Праз тыдзень-другі густая, высокая зрабілася.

Стала козачка-рупліўка канюшыну касіць. Дзень косіць, другі, ужо сонейка за лес садзіцца, як бачыць, суседка да яе набліжаецца.

— Ха-ха-ха! — засмяялася на ўсю паляну каза-няўдаліца. — Навошта канюшыну губіш? Гэта ж вунь хмара



па небе плыве. Заўтра дождж пойдзе — і капцы канюшынцы. Лішняя работа — тое самае, што дурнота.

— Мыш капы не баіцца. Так і я, суседка, гэтай хмаркі. Дождж вымачыць, а ветрык высушыць. Затое, хто старанна косіць, той сена зімою не просіць.

— Рабі як хочаш, — пазяхнула каза-суседка. — Я сваю дзялянку, якую нядаўна нагледзела, пазней, пасля дажджу скашу.

— Дай бог чутае бачыць. А пакуль што, як кажуць, рыбка ў рацэ, ды не ў руцэ.

Як у ваду глядзела каза-рупліўка. Хто летам позна спіць, той лета не бачыць. Так і каза-няўдаліца. І лета праспала, і дзялянку сваю таксама. З дрэў пажоўклае лісце пасыпалася, пацяжэлае неба да зямлі апусцілася, дажджы пайшлі, а яна ні адной травінкі на зіму не назапасіла.

А тут халады пачаліся, марозік прыціснуў. Галадна і халадна стала казе-няўдаліцы. Хоць ты плач з гора. А ка-





за-рупліўка сядзіць у цёплай хатцы, канюшынку смакуе дый жыццю радуецца.

Пасееш — то будзе капа, а не пасееш, то — ні снапа.



# ЛЯСНАЯ ЛЕКАРКА



З самага ранку дождж ішоў. І раптам птушкі заспявалі, на небе вясёлка зазіхацела, сонейка ўсміхнулася.



Узрадавалася вавёрка, што дождж скончыўся, з дупла на зямлю спусцілася, букецік ландышаў нарвала. Бегла па лесе ласка, убачыла вавёрку з ландышамі і пытае:



— Навошта табе кветкі, сястрыца?

— Лекі збіраю, — адказала вавёрка. — Што ў лесе родзіцца, тое ў хаце згодзіцца.



Усё лета збірала вавёрка лекі. Запасалася зверабоем, чаборам, ліпавым цветам, трыпутнікам, каласкамі дзеразы, ягадамі ядлоўцу і шыпшыны, дзівасілам.



Хутка і восень на шэрым кані прыехала.

Аднойчы скача вавёрка па дуброве, глядзіць: сарока сумная сядзіць. Запару-





шыла вока, нічагусенькі не бачыць. Вярнулася вавёрка ў сваё дупло, бутэлечку з настоем на каласках дзеразы дастала. Прамыла тым настоем сарочына вока, і яно імгненна ясным стала, як зорачка на небе.

Дачуўся ад сарокі пра вавёрку лясны конік. Ён заўсёды вясёлы быў, скакаў і спяваў, ды прастудзіўся моцна, кашаль дыхнуць не дае. Вавёрка адшукала ў дупле мяшэчак з ліпавым цветам і чаборам, чаю заварыла. І вылечыла коніка ад прастуды.

Забалела ў зайчыка сэрца. Думаў, усё жыццё будзе каёдзіцца. А ў вавёркі ландышавыя кроплі знайшліся. Паправіўся зайчык, зноў весела заскакаў.

І барсука ў бядзе вавёрка не пакінула. Дзівасілам лячыла ад жывата, ягады ядлоўцу давала есці. А калі ў дзятла шчака апухла, зялёныя лісцейкі трыпутніку да балючага месца прыкладвала.

Ад кожнай хваробы ў вавёрчыным дупле лекі ёсць. Паскардзілася неяк птушка арэхаўка, што ў яе апетыт прапаў, галава баліць. Тут вавёрцы зверабой спатрэбіўся, дапамагла арэхаўцы.

Ніколі раней сарока і арэхаўка не сябравалі. А цяпер яны разам лятаюць, хваляць вавёрку — лясную лекарку.



## ЯК НЕПАСЕДА ПРАКОП ЗАБЛУДЗІЎСЯ

У старым закінутым садзе жылі-былі вожык з вожычыхай. А яшчэ ў іх сыночак маленькі быў, якога Пракопам звалі.

Аднаго разу, калі бацька вожык і маці вожычыха з дому адлучыліся, шчылінкай заспаных вачэй зірнуў Пракоп у акенца і ў сад з хаткі выкаціўся.

Над садам ужо сонца свяціла. Матылькі, разамлелыя ад гарачыні, ляніва над кустамі ляталі.

Пагнаўся вожык за матыльком, а той, як знарок, стаў дражніцца з ім. То да самай травы прыпадзе, здаецца, вось-вось на пыску Пракопу сядзе, то зноў уверх сігане. І хоць трэсні — не дастаць яго.

Надакучыла вожыку за матыльком ганяцца. І рашыў непаседа на рэчку пайсці.

Доўга ці мала тупацеў вожык, глядзіць, ажно каля рэчкі дзяўчынка з сінім касніком у валасах званочкі збірае. Над люстраной гладдзю вады слюдзянымі крылцамі стракозы трапечуць. У старой пласкадонцы рыбак з вудай сядзіць. Але рыба, мусіць, не клюе, бо твар у рыбака

хмуры, ён моршчыцца, нібы ад зубнога болю.

Наблізіўся Пракоп да вады і паплыў. Перакуліўся на спінку, у неба ўзіраецца. Лёгкае цела хвалі люляюць, а вожыку здаецца, што ён па воблаку плыве.

А калі вечар наступіў і жар-птушкаю за лес сонца скацілася, спахапіўся Пракоп, што яго бацька вожык і маці вожычыха чакаюць. Заспяшаўся на бераг. І не заўважыў, што на правы бераг выбраўся, а трэба было на левы. Пасядзеў на бялюткім, што цукар, пяску, і дамоў заспяшаўся.

Неўзабаве ўжо сцямнела, трапіў Пракоп у незнаёмы лес і зразумеў, што заблудзіўся. Як на тое ліха перуны што з гарматы заляскалі, сталі неба вогненнымі стрэламі маланкі свідраваць. Дождж як з вядра паліў. Страшна стала Пракопу, жудасна.

Як скончылася навальніца, вылез вожык з-пад трухлявага пянька і знерухомеў, ажно калючкі на спіне ад страху задрыжэлі. Янота вожык убачыў. Страшны кудлаты звер ажно віскатаў ад радасці. Жабу патрашыў, вячэраў. Кінуўся вожык назад у схованку і прытаіўся там.

Доўга ці мала хаваўся ад янота вожык, глядзіць, ажно і след звера

прастыў. У Пракопа адразу на душы паспакайнела.

Над лесам стаяла ціхая цёплая жнівеньская ноч. «Хопіць мне блудзіць. Улетку кожны кусцік начаваць пусціць. А як развіднее, тады і сцяжынку дамоў знайду».

Падумаў так Пракоп і пад ляшчынаю ўлёгся.

Спаў вожык як забіты. Не бачыў ён, як над дрэвамі прыўзнімалася, паступова знікала цемра, што шчыльным покрывам атуляла лес, як з-за грывы сасонніку паказалася сонца.

Пракопа разбудзілі птушыныя галасы. Прахапіўся вожык, працёр лапкай вочкі і бачыць: блакітнавата-белая раніца ў лесе гаспадарыць. На траве і лісцях матава-зялёным бляскам кроплі расы свецяцца. Яшчаркі пад сонцам на пні спіну грэюць.

Агледзеўся Пракоп наўкола і назад рашуча павярнуў. Хутка-хуценька ножкамі затупаў.

Вось ужо і рэчка відаць. Пераплыў яе Пракоп і на левым беразе апынуўся.

Маці вожычыха, калі ўбачыла ў садзе маленькага Пракопа, слязу пусціла, кінулася сына абдымаць.

Але болей за ўсіх радаваўся бацька вожык, што яго сынок знайшоўся. Частаваў Пракопа сакаўной антонаўкай, пахучымі трускаўкамі. Паклікаў у госці вавёрачку, якая непадалёку ад саду на сасне жытло мела, сароку з дзятлам.

З таго часу маленькі Пракоп без дазволу бацькоў з дому не адлучаўся.







# ЯК ПЧОЛЫ ВАЎКА ПРАВУЧЫЛІ

Адбылася гэта гісторыя даўным-даўно. Яшчэ тады, калі ў лесе дзятлы не вадзіліся і зязюлькі не кукавалі, а ваўкі, як яноты, па дрэвах лазілі.



Дык вось. За палянкаю, дзе без канца і краю калыхалася няскошанае травяное мора, паблізу рэчкі, у якой выдры жылі і рыбы было багата, мелі сабе логава воўк з ваўчыцаю. А зусім побачкі, у густым зарасніку ельніку, дзе праз сплёт галінак не магло прабіцца сонца, і было тут цёмна днём і ноччу, сярод буралому, пад вываратнем, мядзведзь сабе прытулак меў.

Жыў мядзведзь з ваўкамі дружна, як кажуць, на адным сонцы анучы сушыў. То рыбы ў рэчцы наловіць дый пачастуе іх, то мёду збаночак прынясе.

Воўк з ваўчыхаю ў пастухоў авечак кралі, на зайцоў і дзікіх коз палявалі. Так і жылі прыпяваючы.

Праўда, жылі так воўк з ваўчыхаю да таго часу, пакуль гром над галавой не грымнуў. Аднаго разу, як толькі ноч наступіла і дробны дожджык зацерусіў, падкраліся яны да аўчарні, а тут нечакана стрэл, што пярун, бабахнуў. У ваўчыхі з вачэй роем іскры пасыпаліся.

Хоць летняя ночка — як дзікай казе пераскочыць, але ваўчыца з параненай





нагой варочалася ў логаве як на гарачым пяску, усё заснуць не магла. Праз колькі дзён схуднела яна, змізарнела, пад вачамі сінякі пайшлі.

Як захварэла ваўчыха, то й ваўку шанцаваць не стала. За тыдзень усяго аднаго кажана злавіў. Але ж рак — не рыба, а кажан — не мяса. Злосны ён стаў, як яшчарка, бо воўк не еўшы, як мужык пагарэўшы: што не ўбачыць, тое і трэба. Каб, здаецца, яму крылы падчапіў, то ён бы і птушак усіх падавіў.

Аднойчы раніцою, калі на палянцы п'янліва пахла разнатраўем і смалой-жывіцаю, высунулася так-сяк ваўчыха з логава і кажа ваўку:

— За добрым гаспадаром і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне. Схадзі да суседа нашага, мядзведзя, папрасі чаго паесці.

Надзьмуўся воўк як індык дый адпусціўся, паслухаўся ваўчыху.

Ідзе па лесе, прыглядаецца, аж бачыць — мядзведзь насустрач клыпае. У ваўка нібы гара з плеч звалілася. Павітаўся з ім дый пытае:





— Куды ідзеш, Міхайла?

— Ведаю дупло адно, дзе пчолы жывуць. Вось і тупаю туды, мядку пакаштаваць захацелася.

Яно і вядома: як ваўку — авечка, як млынару — вецер, так мядзведзю мёд сніцца.

— Вазьмі мяне з сабою, Міхайла, — просіцца воўк. — Мая гаспадыня захварэла. Як прынясу ёй мядку, мабыць, паправіцца хутчэй.

— Я не супраць, — згаджаецца мядзведзь. — Удвух яно весялей будзе.

Ідуць яны дый ідуць. Мядзведзь тоўсты, як бочка, за ружовымі шчокамі вушэй не відаць, а воўк худы, тонкі, як трэска.

Наўкола лес быццам заснуў, ніякага шуму. Выглянула і адбілася вясёлкамі ў расінках на лясных кветках сонца.

Нарэшце падышлі яны да разгалістага дуба на пагорку, цень ад якога сягаў мо на паўвярсты, і спыніліся.

Мядзведзь, вядома, намнога хітрэйшы за ваўка, як кажуць, ён з мяшка вывінецца, дый сутычку з пчоламі ўжо









не раз меў, таму падняў уверх галаву дый кажа:

— Бачыш, вунь дупло.

— Ага, бачу, — узрадаваўся воўк.

— Тады залазь на дрэва, — сказаў мядзведзь і прыхінуўся да ствала. — Спачатку мне на спіну скачы. А як дабярэшся да дупла, сунь туды лапу і смакуй мядок. Гэта лёгка робіцца.

— Лёгкае пер’е, ды на страху не закінеш, — не пагаджаецца воўк.

— Не святыя гаршкі лепяць. Не бойся, воўк, пакаштуеш мядку, — даводзіць сваё мядзведзь. — Пасля цябе я палезу. Набяру мядку, і баль наладзім, ваўчыху паклічам. Будзем яго залатымі кубкамі з брагаю піць.

Цмокнуў воўк, бы свіння ў карыце, скокнуў мядзведзю на спіну дый палез. А як апынуўся каля дупла, хуценька тыцнуў туды сваю лапу.

Пчолы раз’ятрыліся, сталі кусаць злодзея куды толькі маглі дастаць джалам.

Воўк хацеў завыць ад болю, але голас прапаў, толькі зяхае. З вачэй слё-





зы буйнымі гарошынамі на зямлю пасыпаліся. Грымнуўся ён вобземлю і ну ўцякаць, ляціць у сваё логава, як на голубу.

Многа вякоў прайшло з таго часу, а ваўкі цяпер пчол як агню баяцца. З мядзведзямі таксама сяброўства не водзяць.



## ЖЫЦЬ — ЯК НАБЯЖЫЦЬ

У старым глухім лесе жыла-была маленькая мышка-буразубка.

Ні хаткі сваёй у буразубкі, ні сяброў. Хатку будаваць — ахвоты не было. Сяброў займець — гонар не дазваляў. Лічыла сябе буразубка самай разумнай і прыгожай у лесе. І сапраўды: поўсць у буразубкі кароценькая, аксамітная, брушка ў яе шаравата-белае, а галоўка з рухомым гнуткім хабатком.

Гонар буразубка мела, а жыла як прыйдзецца. За гэта і празвалі яе Жыць — як набяжыць.

Аднойчы бяжыць буразубка па лесе і бачыць: сядзіць вавёрка на елцы і нанізвае апенькі на сучок.

— Што ты робіш, вавёрка? — пытаецца.

— А хіба ты не бачыш, Жыць — як набяжыць? Грыбы сушу. Хто працуе, той і мае. Трэба ўлетку папрацаваць, каб узімку было што жаваць.

— Во надумалася! Свой час — ягадзе, свой час — баравічку. Калі яшчэ тая зіма будзе?





Сказала так буразубка, матлянула доўгім хвосцікам і далей пабегла.

Сустрэў буразубку ля сваёй хаткі барсук, паклаў на зямлю вязку чаромхавых галінак і гаворыць ёй:

— Дапамажы мне, Жыць — як набяжыць, хатку да зімы падрыхтаваць. Стары я ўжо стаў, цяжка аднаму з работаю спраўляцца.

— Ха-ха-ха! — засмяялася буразубка. — Во чаго захацеў! Дзе тая зіма?

— Не смейся, Жыць — як набяжыць. Пад ляжачы камень вада не цячэ.

Згадзілася буразубка дапамагчы барсуку. Узяла галінку чаромхі, паднесла да дзвярэй хаткі і кінула. Гультай за работу — мазоль на рукі.

— Не ўмею я нічога рабіць, дый рукі не хачу паганіць аб тваю работу. Вунь янот-паласкун ніколі сваё дупло не рамантуе і жыве. І я таксама, як бачыш, не прапала, — са злосцю прабубніла буразубка.

— Кожнаму сваё, — сказаў барсук. — Толькі запомні, Жыць — як набяжыць, што праца яшчэ ніколі нікога не паганіла. Яна корміць нас, поіць і жыць вучыць.





А чужым розумам не пражывеш, калі свайго не маеш.

Зазлавалася буразубка на барсука і хутчэй ад яго хаткі пабегла. Нават з гаспадаром не развіталася. Напаткала яна вожыка і пытае ў яго:

— Што ты робіш, вожык?

— Да зімы рыхтуюся, Жыць — як набяжыць.

— Дык яна ж яшчэ не хутка.

— З адкладу няма ладу.

Сказаў так вожык буразубцы і зноў узяўся за работу.

Пабегла буразубка далей і сустрэла на сваім шляху яшчарку. Убачыла буразубка, што тая корпаецца, шчыруе ля сваёй нары, і пытае ў яе:

— Што ты тут шукаеш, яшчарка?

— Не шукаю, а нару абглядаю. Да зімы рыхтуюся. Жывы пра жывое думае, — адказала буразубцы яшчарка.

Выгнула хабаток буразубка, матлянула доўгім хвосцікам і далей пабегла.

Усё жывое ў лесе да зімы рыхтавалася. Толькі адной буразубцы, гультаю ды няўмецы, на гэта часу не хапала. А між тым





хутка і зіма прыйшла. Падзьмулі сіверныя вятры. Разгуляліся і намялі цэлыя гурбы снегу мяцеліцы. Ударылі такія моцныя маразы, што і дыхнуць цяжка. Сядзіць Жыць — як набяжыць пад ядлоўцавым кустом і ад холаду калоціцца. Прамучылася так ноч буразубка, а пад раніцу і зусім зледзянела.



# ЯК ВЕРАБ'І З БУСЛАМІ ПАСЯБРАВАЛІ

На закінутым хутары пад застрэшкам старой скасабочанай хаткі жылі-былі верабей з вераб'іхаю. А праз дарогу, у шыпшыне, пад грудай камянёў дзве ласкі пладзіліся.



Надакучыла снежная зіма вераб'ям.

На Грамніцы, калі вясной павеяла і пятух мог напіцца вадзіцы, — павесялелі, зачырыкалі вераб'і.

На Саракі, калі вылецела сорак выраяў, — цёплым сонейкам не маглі нацешыцца.

А як наступіў Васіліска, ад яго, кажуць, і салавей блізка, — сталі вераб'і памалу гняздо абнаўляць, мяккім пухам і сухімі травінкамі высцілаць.

А як пачаўся белы яблыневы май і траўка зазелянела, — верабей з вераб'іхаю ўжо дзетак гадавалі. Кармілі іх мошкамі, матылькамі, розных жучкоў лавілі.











Выраслі маладзенькія верабейкі, на крыло ўзняліся.

А як ля хаткі пачала зацвітаць, п'яніць салодкім водарам ліпа, вераб'іха зноў на яечках сядзела.

Аднойчы раненька, калі на хутары ўжо пырхалі сініцы, пелі дразды, паляцелі вераб'і па корм для дзетак.

Прыляцелі на шырокі, раздольны луг, дзе плойма сытых аваднёў вадзілася. І не прыкмецілі, як хмары неба завалаклі. Бліскавіцы сталі жыгаць і перуны, як з гарматы, страляць. Тут жа буйны дождж хвастануў.

Перачакалі навальніцу і, як толькі сонца выбліснула, дамоў заспяшаліся.

Прыляцелі на хутар, скокнулі пад застрэшак, а адтуль ласка, як злодзей, выскачыла. З верабейкам у зубах. Як сыкне на іх, з вачэй агонь ляціць.

Кінуліся верабей з вераб'іхаю ў гняздо, а яно пустое.

Паплакалі яны па дзетках, пагаравалі дый зляцелі з хутара.

Доўга ляцелі ці мала, глядзяць, ажно каля рэчкі апынуліся. Рашылі адпачыць крыху і на галінку вярбы апусціліся.









За рэчкаю ў жыце перапёлка зацыркала. У траве конікі стракочуць, гуллівыя матылькі пырхаюць. На купінах-мурашніках сіні чабор цвіце, а ў ім пчолы дый чмялі бзумкаюць. Яно і вядома: дзе кветкі, там і мёд.

Верабей з вераб'іхаю сталі пакрыху пра сваё гора забывацца, як раптам з астраўка, парослага чырвонай лазою, нехта сіплым голасам дапамогі папрасіў:

— Піць... дайце піць...

Усхапіліся, падляцелі да астраўка, глядзяць, ажно там маладзенькі буслік ляжыць.

— Піць... дайце піць... — не перастае прасіць аслабелы птах.

Сталі яны з рэчкі ў дзюбках ваду насіць, бусліка паіць.

Пакрапчаў буслік дый кажа:

— Ножка баліць. Навальніцай павярэдзіў, ступіць не магу. Такая калатнеча была, што ажно зямля дрыжала.

— Не бойся, буслік, цяпер навальніцы не будзе, — сказала вераб'іха, гладзячы яго па аксамітнай галоўцы. — Чуеш, як ветрык пявучы, што званочак, у лісцы гуляе? Гэта ён разагнаў хмары.

Памаўчалі крыху, а буслік і кажа:





— Бацька-бусел з маці-бусліхаю, пэўна, не здагадваюцца, што са мною здарылася. А яшчэ ў нас дома жаб вельмі многа — еш, хоць распеважыся… — Тонкая доўгая дзюбка ў бусліка ўздрыгнула, а з падпухлых вочак паказаліся слёзкі.

— А дзе твае бацькі жывуць, буслік? — спытаў верабей.

— За пушчаю, каля Сіняга возера.

— Тады чакайце, я хутка…

Сказаў так верабей, узмахнуў крыламі і памчаўся над зарэчнымі лугамі маланкаю.

А калі стала заходзіць сонца і ад ракі павеяла ледзь чутным вячэрнім халадком, прыляцелі бусел з бусліхаю. Не маглі нарадавацца птахі, што іхні сынок знайшоўся. Сталі яго абдымаць, цалаваць.

Маці-бусліха памазала ранку маззю, прыклала да хворай ножкі бусліка лісце трыпутніку.

І вось аднойчы раніцою, як толькі буслік стаў на ножку ступаць, калі яшчэ луг быў заліты халоднай расою, а з-за лесу выкацілася, пырснула цёплымі промнямі сонца, сталі буслы да Сіняга возера збірацца.





— Будзь здаровы, буслік, на ўвесь год, як калядны лёд! — казала на развітанне яму вераб'іха.

— Вялікі расці, добра гадуйся! — жадаў бусліку і верабей.

А буслік захваляваўся, не хоча развітвацца. Тонкая доўгая дзюбка яго задрыжала, загарэліся і тут жа пагаслі ў вочках вясёлыя агеньчыкі.

— І вы разам ляціце. Ля Сіняга возера, на дубе будзеце жыць. Гняздо ў нас прасторнае, вялікае. Яно вам спадабаецца, — просіць буслік.

— Ага, ляціце, ляціце. Усім месца хопіць, — падтрымалі сына бусел з бусліхаю.

Пасяліліся верабей з вераб'іхаю ў буслiным гняздзе і сталі жыць як у бога за пазухай, дзетак гадаваць.

Не сто і не дзвесце гадоў прайшло з таго часу, як добрая навіна пра спагадлівых буслоў па ўсім свеце разляцелася. Бо што ні бусліное гняздо, дык і вераб'і ў ім прытулак сабе ладзяць.



# ЧАМУ ВАРОНЫ Ў ВЫРАЙ НЕ ЛЯЦЯЦЬ

Аднойчы сустрэў грак варону.

— Што ты робіш, шэрая? — пытаецца ён.

— Ат, не пытайся. Гэта ж зімою ледзьве не акалела, дык цяпер сваю хатку хачу ўцяпліць.

Паклала ў гняздо камячок ваты і кажа:

— І табе, грак, раю гэтым заняцца. Ад ляноты — чакай бядоты.

Грак адно рассмяяўся, пачуўшы такое:

— Хто па дарозе ходзіць — з сабою хаты не носіць. Я ж у вырай лячу.

— А як у тым выраі, раскажы? — цікавіцца варона.

— Хораша там. Сонейка ўвесь час свеціць. Зялёная трава-мурава сцелецца. З рэчкі рыба ажно на бераг скача, сама ў рот просіцца. Райскае жыццё.

Надакучыла вароне мярцвячынай карміцца. Як пачула пра рыбу, так і слінкі ў яе пацяклі.



— Слухай, грак, — гаворыць яна. — Вазьмі і мяне з сабой у вырай.

— Гэта калі ласка, і нам весялей будзе. Ляці сабе, — адказвае грак.

Развіталася варона з сяброўкамі і паляцела з гракамі. Дзень ляцяць, а на другі варона і кажа:

— Не магу болей, крылы ўжо мяне не слухаюцца.

— Узяўся за гуж — не кажы, што не дуж, — суцяшае варону грак.

А яна ажно плача:

— Ой, сэрца з грудзей зараз выскачыць!

Апусціліся птушкі на зямлю, адпачылі і зноў у неба падняліся.

А варона зноў адставаць пачала.

— Калі ўжо тая рэчка з рыбай будзе? — пытае ў грака.

— Туды яшчэ ляцець і ляцець, варона. Мо праз тыдні два і будзем на месцы, — адказвае той.



Зусім зніякавела варона. Ужо і не рада, што ў вырай сабралася. А хутка на птушак чорныя каршуны напалі. Разляцеліся гракі хто куды, а варона ўпала пад куст і ляжыць ні жывая ні мёртвая.

Сабраліся раніцою гракі, да сябе варону клічуць, а тая і вухам не вядзе. Знаёмы грак наблізіўся да яе і кажа:

— Падымайся, шэрая. Ляцець пара.

— Спалохалася я каршуноў і занядужала нешта. Яшчэ паляжу крышку, — просіцца варона.

Пачакалі гракі варону, а пасля абеду зноў напомнілі ёй, што ў вырай спяшацца трэба. Паднялася яна, пазяхнула.

— Ой, баюся, — кажа. — Такі страшны сон сніла.

— Чаго баяцца, шэрая, — гаворыць знаёмы грак. — Тое дарага, што нялёгка даецца.

А варона зноў за сваё:

— Надта ж хочацца мне дамоў вярнуцца. Паглядзець, ці многа я праляцела? А як пагляджу — тады даганю вас.







— Рашай сама. Кожны свой розум мае.

Птушкі хвалююцца, бо шмат часу з варонай патрацілі.

— Калі не музы́ка, — кажуць, — не бяры скрыпкі ў рукі.

Сабраліся — і паляцелі без вароны.

Вярнулася варона дамоў і заракласа болей у вырай ляцець. А пра тое, што перажыла, сваім сяброўкам расказала. З таго часу вароны выраю як агню баяцца.



# АПОШНІ ПАЛЁТ

Ці ведаеце вы, дзеткі, палятуху, звярка такога? Калі не, то я раскажу вам пра яго. Жыве палятуха ў глухіх з дуплаватымі дрэвамі лясах і вельмі падобная на нашу звычайную вавёрачку. Толькі і адрозніваецца ад яе тым, што на канцах вушэй кутасікаў не мае. Як і вавёрачка, любіць грыбы і ягады, але не хоча ведаць смаку арэхаў і жалудоў. «Чаму яе называюць палятухай?» — спытаеце. А вось чаму. У час палёту звярок плануе з дрэва на дрэва на адлегласць ажно да сарака метраў. Адсюль і назва — палятуха.

Дык вось, дзеткі, слухайце далей казку, калі ласка.

На высокай асіне ў прасторным дупле жыла-была палятуха. Непадалёку ад яе янот з вожыкам жылі. Янот, як і палятуха, гняздо ў дупле меў, а вожык у нары пад яловым пяньком прытулак знайшоў.

Ужо ў лесе пралескі і сон-трава зацвілі. Аднойчы раніцою вылезла з дупла палятуха і гаворыць яноту з вожыкам:

— Паглядзіце, як я лятаць умею! Вам такое і не снілася!





І як кінецца з вершаліны асіны, як у прорву, да елкі, якая на самым канцы палянкі расла. Толькі вецер у вушах палятухі свішча.

У вожыка па скуры мароз пабег.

— Ай-я-я! Што гэта яна надумалася? — закрычаў ён і ад страху вочкі заплюшчыў.

А ў янота, як убачыў такое, дык ажно галава закружылася і хвост дробненька затрымцеў.

— Паволі едзеш — далей будзеш, — сказаў і адвярнуўся, каб і не бачыць, што палятуха вытварае.

Палятуха даляцела да елкі, ухапілася лапкамі за галінку і сядзіць, на янота з вожыкам глядзіць.

Вожык асмялеў, адкрыў вочкі, убачыў на елцы палятуху жывую і здаровую і ў скокі ад радасці пусціўся.

Ляцела па лесе сарока-белабока. Скокнула да палятухі і гаворыць ёй так:

— Хораша лятаеш, палятуха. Хвалю, сама бачыла.

— О, гэта я ўмею рабіць! — адказала палятуха і ад задавальнення хвосцікам заматляла.

Засакатала сарока-белабока, кіўнула ўбок галавой і пытае:





— Бачыш, палятуха, тыя бярозкі?

— Ага, бачу.

— Дык вось за імі балотца знаходзіцца, а за балотцам алешнік расце. Хацела б я ведаць: ці асмелішся ты, палятуха, праз гэта балота пераляцець?

— Не сумнявайся, сарока-белабока. Па рабоце майстра відаць. У адно імгненне ў тваім алешніку апынуся, — фыркнула палятуха.

Пачуў вожык, аб чым сарока-белабока з палятухай гавораць, і закалаціўся ўвесь, як у ліхаманцы. Гэта ж надоечы ён на тым самым балотцы змей лавіў і бачыў, як ястраб-цецяроўнік у сваё гняздо на высокую алешыну зайца прынёс. А з палятухай драпежнік гуляючы справіцца. Пачаў ёй гаварыць пра гэта вожык, а палятуха і слухаць яго не хоча.

Янот таксама палятуху просіць, каб яна сароку-белабоку не слухала. Але тая на сваім стаіць: палячу, і ўсё тут.

Адышоўся янот ад палятухі і гаворыць вожыку:

— Можа, яшчэ ўсё дабром скончыцца. Хай ляціць. Кожная галава свой розум мае.





Скокнула з галінкі на галінку палятуха, даляцела да бярозак і сіганула цераз балотца. Але тут, як на тое ліха, спікіраваў на яе з вышыні той самы ястраб-цецяроўнік. Ухапіў вострымі кіпцюрамі і панёс над балотцам.

Вось яно як бывае, дзеткі.

Не пераскочыўшы рэчкі, не кажы гоп.



# НЯПРОШАНЫЯ ГОСЦІ

Непадалёку ад сажалкі на дубе два белабровікі жылі. Два дразды, значыць. Бацька з сынам. Прыгожыя птушкі, нічога не скажаш. Спінкі аліўкава-бурыя, а брушкі белыя. Над вачыма шырокія вохрыста-белыя бровы.

Вясною каля сажалкі белабровікі суніцы пасадзілі. У дзюбках ваду насілі, штодзень кволыя сцяблінкі палівалі. А яны з кожнай хвілінай да сонейка цягнуліся.

Не агледзеліся бацька з сынам, як настаў час ураджай збіраць. А суніцы адна ў адну ўрадзілі. Ярка-малінавыя і буйныя. Салодкія, ажно язык разам з ягадамі праглынуць можна, і духмяныя.

Рана-раненька прачнуліся белабровікі, невялікі кошык з сабой прыхапілі і да сажалкі паляцелі. Глядзяць, насустрач сарока-белабока спяшаецца. Падляцела да іх і гаворыць белабровіку старэйшаму:

— Ад дзярабы, твайго знаёмага, лячу. Нешта занядужаў ён, прасіў, каб ты адведаў яго.





Сказала так сарока-белабока і назад паляцела.

— Няма сябра — шукай, а знойдзеш — беражы, — сказаў белабровік і пачаў у дарогу збірацца.

Вечарам па лісцях дуба дождж зашалясцеў, а бацька дамоў не ляціць. Чакаў-чакаў яго сын дый заснуў. Раніцою прачнуўся, глядзіць, а бацькі яшчэ няма. Узмахнуў крылцамі і да сажалкі паляцеў. Ляціць сабе, а яго дзве сачыўкі з чырвонымі галоўкамі даганяюць.

— Куды спяшаешся, белабровік? — пытаюць.

— Да сажалкі лячу. Хачу на свае суніцы паглядзець.

— Ды няўжо тут суніцы дзе растуць? — не адстаюць сачыўкі. — Колькі часу лятаем, а ніводнай ягадкі не давялося пабачыць.

— Тады ляціце са мной! — узрадаваўся белабровік.

Прыляцелі сачыўкі да сажалкі і дзіву дзівяцца. Сунічкі адна ў адну выраслі. Вачэй ад іх не адарваць.





— Пачастуй, белабровік, нас, — просяць сачыўкі.

— Не, без бацькі нельга, — кажа белабровік. — Як прыляціць, сварыцца будзе на мяне.

— Свой бацька насварыцца і пашкадуе, — не здаюцца сачыўкі.

Тады белабровік падумаў крыху і кажа:

— Такой бяды. Калі па адной ягадцы і з'ядзім, то вялікага знаку тут не пакінем.

Сарвалі сачыўкі з белабровікам па адной ягадцы, з'елі, а яны як той мёд. Пакруціў дзюбкай белабровік, паглядзеў на сачывак дый гаворыць так:

— Ат, адным гарбузікам не пад'ясі, а расінкаю не нап'ешся. Давайце яшчэ па некалькі ягадак з'ядзім.

Вечарам белабровік-бацька дадому вярнуўся. Глядзіць, а на градцы ні адной ягадкі спелай не засталося.

— Сынок, а дзе ж нашы сунічкі падзеліся? — пытае.





— Ды я… я… толькі адну ягадку з’еў. Гэта няпрошаныя госці, дзве сачыўкі да сажалкі прыляталі.

Сказаў так белабровік-сын і пачырванеў як вараны рак.

Сораму ў кішэню не схаваеш.



## ЧАМУ ЯНОТУ СОРАМНА СТАЛА

Спачатку над лесам хмарка паружавела, а потым з-за яе сонейка золатам пырснула. Паснедаў вожык, сабраўся і на лясное азярко патупаў, дзе яго, як заўсёды, сябрукі — чарапаха з андатрай — чакалі. Пакуль да азярка дабраўся, сонейка яшчэ вышэй паднялося. Так прыпякае, што ажно пыска ў вожыка спацела.

Каля азярка жабы крумкаюць, а на самым беразе янот ляжыць. З боку на бок куляецца, то адну лапу ўверх падыме, то другую пад сонца падставіць. Загарае, значыць. Непадалёк ад азярка, вожык ведаў, у янота ў дупле гняздо было.

Плюхнуўся вожык у азярко і на сярэдзіну паплыў. Андатра з чарапахай следам за ім. Даплылі да супрацьлеглага берага, адпачылі крыху і назад, у бок янота накіраваліся. І раптам на сярэдзіне азярка вожыка бяда напаткала. Заднія лапкі сутарга схапіла. Спруцянелі, як колікі, і хоць гвалт крычы — не слухаюцца яго. Не паспеў і голас падаць, як тануць пачаў. Андатра з чарапахаю за вожыка ўхапіліся, сталі нема крычаць,



на дапамогу да сябе янота клікаць. А той нетаропка на лапы стаў, глянуў у іх бок, незадаволена скрывіўся і на другі бок перакуліўся.

Аднекуль з кустоў куляю выскачыў гарнастай:

— Янот, чаго ляжыш, небарака? Хіба не бачыш: вожык тоне!

— А мне што да гэтага? — ашчэрыўся на гарнастая янот. — У саміх, як той казаў, клопатаў поўны рот.

Сказаў так янот і сігануў у кусты, ажно вецер за ім засвістаў. Гарнастай кінуўся з размаху ў азярко і заспяшаўся на дапамогу андатры з чарапахай. Так і выратавалі калючага.

Хутка і восень наступіла. З дрэў пажоўклае лісце ляціць. Дзе-нідзе невялікія люстэркі-лужынкі свецяцца. Аднаго разу вожык з гарнастаем непадалёк азярка па лесе гулялі. Восенню ў азярцы не пакупаешся. Вада халодная, адразу дрыжыкі па целе скачуць. Пасля палудня па небе цёмныя кудлатыя хмары паплылі. Яны аж зіхацелі бліскавіцамі. У вершалінах дрэў вецер загаласіў. Перуны як з гарматы бухалі. А хутка і дождж з градам сыпануў.

Перачакалі вожык з гарнастаем навальніцу і далей рушылі.





Ужо і сонейка свеціць, хмары з неба паўцякалі, і вецер заблудзіўся. Ідуць яны так ды ідуць, паціху перагаворваюцца і раптам зламаную сасну бачаць. Падышлі бліжэй, ажно там янот у дупле енчыць, выбрацца на волю ніяк не можа. Хацелі вожык з гарнастаем сасну ўверх дуплом павярнуць, каб янота вызваліць. Але дзе там! Сілы той у іх — кот наплакаў. Пачуў янот, што нехта каля дрэва сіліцца, а яно і ні з месца, дый гаворыць так: «Канец мне тут. Калі суджана памерці, то не мінеш смерці».

Сталі раіцца вожык з гарнастаем, што ім далей рабіць. Гарнастай і кажа:

— Гуртам і ў бядзе лягчэй. Непадалёк тут, ведаю, ласка жыве. Трэба яе паклікаць.

— Што праўда, то праўда, — пагадзіўся вожык. — Сам гінь, а таварыша выручай. Я андатру з чарапахай паклічу.

Сказалі так і панесліся ў розныя бакі.

Першымі да сасны гарнастай з ласкай прыскочылі. Ухапіліся лапкамі за камель — не паддаецца. Тут вожык з андатраю і чарапахай падаспелі. Андатра і вожык лапкамі, як абцугамі, за сук



ухапіліся. Ласка, нібы віхор, скокнула цераз камель і да другога падляцела.

— Раз, два! Узялі! — камандуе гарнастай, і ажно спіна выгінаецца, у дрэва з усёй сілай пхне. Чарапаха дапамагае яму.

Сасна зрушылася, і дупло на свет паказалася. Вылез з яго янот цямнейшы за хмару асеннюю. Не верыцца яму, што ад смерці выратаваўся. Калоціцца што асінавы ліст. Павярнуўся, каб пагледзець, хто яго выратаваў, і адразу ж гарнастая, вожыка і андатру з чарапахай пазнаў. Зніякавеў янот, не па сабе яму стала. Вострая мордачка і кончыкі вушэй умомант пачырванелі, як спелы памідор. Апусціў уніз вочы янот і гаворыць:

— Гукні на лес, то і лес адзавецца. А я... я... я...

Заікаецца янот. Слова патрэбнага знайсці не можа.

Засмяяліся вожык, андатра, чарапаха, гарнастай і ласка, развіталіся з янотам і пайшлі кожны сваёй дарогай.



## ЗАЙЧЫК І ЯГО СЯБРЫ

Аднойчы ўбачыў зайчык, як пад кустом вожык плача, слёзы буйныя, як гарошыны, коцяцца ў беднага з вачэй. Спыніўся зайчык і пытаецца:

— Сябра вожык, чаго ты плачаш? Глянь, як сонейка свеціць. Можа я твайму гору дапамагу?

— Як жа мне не плакаць, — гаворыць вожык, а сам лапкай слёзы выцірае. — Хадзіў я па лесе, мышак дзеткам лавіў, а вярнуўся дамоў — няма маіх дзетак.

— Не плач, вожык. Адшукаю тваіх дзетак, нідзе яны згубіцца не маглі.

Сказаў так зайчык і паскакаў далей па лесе. Хутка ўбачыў азярко невялікае. Купаюцца ў ім, фыркаюць тры маладзенькія вожыкі.

— Ай-яй-яй-яй, гэта ж яны ўтапіцца могуць! — спалохаўся зайчык і паклікаў вожыкаў на бераг. Тыя і расказалі яму, як з дому сышлі.

Калі ўбачыў стары вожык, што зайчык яго дзетак вядзе, вельмі ўзрадаваўся:

— Дзякуй табе, зайчык, ніколі не забуду тваю дапамогу.





Развітаўся зайчык з вожыкам і далей паскакаў. На палянцы сеў на пянёк, на сонейку грэецца. Прыслухаўся, як дрэвы гамоняць, траўка шапоча, і чуе: нехта сіратлівым галаском на дапамогу кліча. Скокнуў зайка з пянька і бачыць: на кусціку ядлоўцу ў павуцінні вісіць уніз галоўкай чмель. Лапкамі трапеча, вырвацца хоча, але нічога ў яго не атрымліваецца. Вызваліў зайчык чмяля і далей паскакаў.

Хутка ў галінах дрэў загаласіў вецер. Неба стала чорным. «Што рабіць? — падумаў зайчык. — Навальніца будзе».

Скокнуў ён пад густую елачку і агледзеўся. Добрае месца выбраў, ніякі дождж не страшны. Перачакаў зайчык пад елачкай навальніцу і далей паскакаў. Аж бачыць елку, якую навальніца паваліла. Каля елкі вавёрачка сядзіць, горкімі слязьмі заліваецца. Падбег зайчык да вавёрачкі і пытаецца:

— Скажы, вавёрачка, чаго ты плачаш? Можа, я твайму гору дапамагу?

Яшчэ мацней заплакала вавёрачка:





— Была ў мяне хатка на елцы, ды не стала. Дзе я цяпер буду сваіх дзетак гадаваць?

— Не плач, вавёрачка, дапамагу я твайму гору.

Сказаў так зайчык і ўзяўся хатку будаваць.

Бралася напрыцемкі, калі зайчык развітаўся з вавёрачкай і дамоў паскакаў. Па дарозе ў ямку з вадой уваліўся. Пакуль выбраўся з яе, аслаб зусім, ледзьве дамоў дабраўся. Доўга не мог заснуць, а потым сны страшныя бачыў. То паляўнічыя за ім са стрэльбаю гоняцца, то ліса ў хатку залезці хоча. А раніцою не падняўся зайчык з пасцелі. Ні войкнуць, ні павярнуцца не можа. Усё цела як агнём гарыць.

Захацелася яму піць, а вады падаць няма каму.

«Памру тут адзін, ніхто і ведаць не будзе», — думае.

У гэты час у дзверы нехта ціхенька пастукаў. Узрадаваўся зайчык, калі на парозе сваёй хаткі ўбачыў знаёмага вожыка з дзеткамі. Яны прынеслі вялікі пірог з грыбамі. Не пакінула ў бя-





дзе зайчыка і вавёрачка. Кожны дзень прыбягала да яго, гасцінцы прыносіла. Прыхапіўшы з сабою кубачак мёду, прыляцеў адведаць зайчыка і чмель.



## ЧУЖЫМ РОЗУМАМ СЫТЫ НЕ БУДЗЕШ

Жыў-пажываў, гора-бяды не знаў касалапы Мішка. Хапала яму ў лесе і маліны, і арэхаў, і жалудоў. Нават авёс калі-нікалі каля рэчкі сеялі. Але раптам на лес як гром з яснага неба бяда абрынулася. Зазвінелі ў ім пілы, і пачалі дрэвы долу падаць.

Прымасціўся Мішка на пянёк, абхапіў лапамі галаву і сядзіць. Збедніўся, як усё







роўна бочку мёду згубіў. Ляцела зелянушка, убачыла Мішку і пытае яго:

— Мядзведзь, ты што — спіш?

— Не, не сплю, зелянушка. Зубы баляць, галава трашчыць. Здаецца, на дзве палавінкі вось-вось разваліцца. Хіба не бачыш, што вакол дзеецца?

— Дык чаго сядзіш? Уцякай адсюль.

— А куды ўцякаць? Каб жа я ведаў…

— Тваю бяду, мядзведзь, адной рукой развяду, — гаворыць зелянушка. — Ведаю я адну мясціну. Нядаўна прыляцела адтуль.

— А як мне туды трапіць? — пытае мядзведзь.

— Вельмі проста. Слухай мяне ўважліва і запамінай. Пойдзеш гэтай палянкаю і на дарогу выйдзеш. Павернеш направа і будзеш ісці дзень і ноч і яшчэ адзін дзень. А вечарам у пушчу прыйдзеш. Не пушча, а рай сапраўдны. Колькі там была, ні аднаго чалавека не бачыла.





Узрадаваўся Мішка, развітаўся са сваімі сябрамі, зайкам і вавёрачкай, і ў дарогу адправіўся.

Ідзе Мішка дзень, ідзе ноч, стаміўся, ужо і ногі слухацца не хочуць, ажно пад вечар і праўда перад ім, як кінуць вокам, ні канца ні краю не відно, — пушча паказалася. Па галінках шустрыя вавёрачкі шастаюць, на зіму баравікі сушаць. Зайцы на сонейку грэюцца, а вожыкі аж заходзяцца ад радасці, у невялікім, круглым, як сподачак, азярку купаюцца. Ні паляўнічых тут, ні страшыдлаў жалезных. Адным словам, жывуць у пушчы звяры як у бога за пазухай.

І Мішка ў пушчы жыве, а спакою не мае. «Як там, у старым лесе, жывуць мае сябры — зайка і вавёрачка? Вось добра было б, калі б яны сюды, у пушчу, жыць перабраліся. Сам загінь, а друга з бяды выбаві. А я што нарабіў?» Не спіць начамі Мішка, месца сабе не знаходзіць.

Аднаго разу ранічкай убачыў мядзведзь сваю знаёмую, зелянушку. Расказаў ёй пра бяду, а яна закруціла ў бакі дзюбкаю дый гаворыць:

— Не бядуй, Мішка. Знайду тваіх зайку з вавёрачкай. Пакажу ім да цябе дарогу.





Сказала так зелянушка, узмахнула крыламі і паляцела ў стары лес. Адшукала там зайку з вавёрачкай, расказала, як ім да Мішкі ў пушчу дабрацца.

Сталі зайка і вавёрачка ў дарогу збірацца. А дарога няблізкая. Каб галоднымі не быць, зайка ў торбачку качан капусты паклаў, тры радыскі і пяць буракоў, а вавёрачка некалькі жмень арэхаў і жалудоў усыпала. На другі дзень, як толькі сонейка на неба выкацілася, зайка і вавёрачка з дому выйшлі. Зайка торбачку на плячах нясе, а вавёрачка следам за ім па галінках скача.

Прайшлі вярсты са тры, зайка торбачку развязаў, бурачок з'еў, а вавёрачка арэхамі падмацавалася. Завязаў зайка торбачку, ускінуў на плечы, і далей падаліся. Сонца бязлітасна смаліць. Пот вочы засцілае. Торбачка зайку шыю муляе. Вавёрачка яму памагаць стараецца, але ў самой сілы — кот наплакаў.

Бегла тут ліса, прыпынілася каля іх і гаворыць:

— Зай-бедалага, што ты гэту торбу тузаеш? Кінь яе, а я павартую. Будзеш назад вяртацца — забярэш.





Паслухаў лісу зайка. Скінуў з плячэй на зямлю торбачку. Ішлі яны, ішлі, і цямнець пачало. Зусім аслабеў зайка. Есці хочацца, як схуднеламу ваўку зімой. У вачах жоўтыя матылькі скачуць, ножкі трымаць не хочуць. Грымнуўся ён на зямлю і ляжыць як нежывы. Спалохалася вавёрачка, што зайка з голаду памрэ, і кінулася торбачку з ядой шукаць. Але на тым месцы, дзе яны торбачку пакінулі, — ні торбачкі, ні лісы не аказалася. Вярнулася вавёрачка да зайкі ні з чым і кажа:

— Не трапім мы адны да Мішкі. Давай назад вяртацца.

— Не! Альбо пан, альбо прапаў! — гаворыць зайка. — Будзем у пушчу прабірацца.

Сказаў так зайка і наперад падаўся. Вавёрачка за ім спяшаецца. Ідуць дзень, ідуць другі і толькі на пяты так-сяк да пушчы дайшлі. Худыя, змарнелыя.

Узрадаваўся Мішка сустрэчы, найперш зайку і вавёрачку мёдам пачаставаў, а потым і спытаў, што з імі ў дарозе здарылася. Расказалі зайка і вавёрачка, як яны ў пушчу дабіраліся, як лісу напаткалі, а





тая, замест таго каб дапамагчы, вакол пальца іх абвяла.

Выслухаў уважліва сяброў Мішка і кажа:

— Бяда хоць мучыць, але жыць вучыць. Ведайце гэта надалей і вы, бо чужым розумам сыты не будзеш.

З таго часу і жывуць разам у пушчы Мішка, зайка і вавёрачка. Надоечы я сам у той пушчы быў і бачыў іх. Мішка дачушцы слоік мёду перадаў, зайка — ажно тры моркаўкі, а вавёрачка ў кішэню арэхаў насыпала.



# ДАВЕРЛІВЫ ПОПАЎЗЕНЬ

Лятала сойка па лесе, стамілася — адпачыць рашыла. Апусцілася на маладзенькі дубок і попаўзня ўбачыла, які ў ямку каля пня арэхі хаваў. Захацелася сойцы дармавых арэхаў пакаштаваць, скокнула яна да попаўзня і гаворыць так:

— Ай-я-я! Колькі жыла, такіх арэхаў не бачыла!

Абрадаваўся попаўзень, што яго арэхі сойка хваліць, і кажа госці:

— Працавітаму і паміраць часу не хапае. У мяне гэтых арэхаў дай бог колькі! На цэлую зіму хопіць.

— Галоднаму жывату і пушынка па нутру. Можа, мяне сваімі арэхамі пачастуеш? — пытае сойка.

— Калі ласка. Як кажуць, увосень за стол просім.

Насыпаў попаўзень на пень арэхаў і кажа:

— Частуйся, сойка. Я таксама разам з табой чарвячка замару. У сябрыне і кашу добра есці.

Наелася ўволю сойка арэхаў, пачысціла дзюбу і гаворыць:





— Во, ажно падужэла адразу. Можна і песні спяваць, як пад'ясі. — Узмахнула крыламі і паляцела дамоў. Нават з попаўзнем не развіталася і за арэхі падзякаваць забылася.

На другі дзень сойка зноў прыляцела.

— Хваліўся, што ў цябе арэхаў многа. Пачастуй яшчэ разок, — просіць яна.

— Чаму не — пачастую, — узрадаваўся попаўзень, як толькі госцю ўбачыў. — Увосень і верабей багаты, а пра мяне і гаварыць няма чаго.

Падмацавалася сойка арэхамі, пазяхнула дый кажа:

— Гэта ж трэба... Не думала, не гадала, што такога таварыша сустрэну. Скажы, попаўзень, можа, табе што дапамагчы трэба?

— На зіму хацеў дупло паправіць, каб цяплей было, — адказаў той. — Але такой бяды, сам спраўлюся.

— Во надумаўся! Сілы ў цябе, попаўзень, як у камара таго. Паберажы сябе. Вось прылячу заўтра, і ўраз гэтую работу зробім. Для друга сем вёрст не ваколіца.





Падзякаваў попаўзень сойцы за добрае слова, і дамоў яна паляцела. Ляціць і думае сабе: «Во чаго захацеў. Нічога з табой не зробіцца, сам сваё дупло паправіш». Адным словам, у вочы — саколю, а за вочы соллю.

Пачакала колькі дзён сойка, пакуль попаўзень дупло адрамантуе, і зноў да яго паляцела. Глядзіць на дупло, а яно ажно блішчыць, як новенькае стала.

— Гэта ж хварэла я… — зашчабятала сойка. — Ты ўжо прабач мяне, попаўзень, што падвяла цябе.

— Ат, такой бяды. Сам не зломак, управіўся, як бачыш. Добра, што ты хоць паправілася, сойка.

— Ага, паправілася, дзякуй богу.

Попаўзень з радасці, што сойка жывая і здаровая, на пень арэхаў насыпаў.

Шчоўкае сойка арэхі папоўніцы, нават не глядзіць, што і дождж пачаўся. Раптам крутанула галавою ды каршуна нізка ў небе ўбачыла. Падскочыла ды як рване ў кусты.

— Куды ты, сойка? — закрычаў ёй у след попаўзень. — У мяне ў дупле пера-





начуеш. Гэткім дажджом добры гаспадар і сабаку на двор не гоніць. Вяртайся…

Не паспеў попаўзень так сказаць, як у кіпцюры каршуна трапіў.

Не за сталом таварышы пазнаюцца — яны пазнаюцца ў бядзе.



## ЯК ЦЮЛЬПАН ЧМЯЛЯ АД ДАЖДЖУ РАТАВАЎ

Абудзіўся чмель ад зімовага сну, працёр вочкі касматымі лапкамі, глянуў у акенца дый узрадаваўся: «Вясна наступіла!»

Сонца ярка свеціць, нідзе снегу не відаць, адно туманок рэдзенькі па драбналессі плыве. Залацістымі зорачкамі падбел расцвіў, дзьмухавец угору жоўтую галоўку задраў, на сонейку грэецца.

На бярозе весела сінічкі звіняць, на старой алешыне дзяцел грукае.

Над сажалкаю буслы кружацца. Зайка белы кажушок на шэрую світку памяняў, зялёную траўку пад кусцікам скубе.

Вылез чмель з хаткі дый да дзьмухаўца паляцеў. Той салодкім сокам напаіў яго.

Падзякаваў чмель дзьмухаўцу за пачастунак і далей паляцеў.

Мінуў пясчаную выспу, на якой адзін чэзлы хвойнік па ўзлобках слаўся, праляцеў яшчэ крыху дый на грушу-дзічку апусціўся.

— Рана завітаў да мяне, чмель, — са скрухаю прамовіла груша-дзічка. — Мае кветкі яшчэ не распусціліся, яны ў пупышках схаваны.







Лятаў чмель па лузе і не прыкмеціў, як шарэць пачало, а з неба пасыпаліся дробныя, як мак, дажджынкі. Вецер падзьмуў.

Крылцы ў чмяля змоклі, стала цяжка махаць імі. Спалохаўся чмель, што дадому не даляціць, ажно чуе:

— Ці далёка твой дом, чмель?

Глядзіць — цюльпан каля сцяжынкі сядзіць.

— А як жа, мілы, — адказвае яму чмель. — Дарога няблізкая.

— Тады хадзі да мяне. Удваіх смялей будзе.

Сказаў так цюльпан, раскрыў свой бутон, а чмель і скочыў ў яго. А як закрыўся цюльпан, чмель у стракатай хатцы без акон і дзвярэй апынуўся.

Двойчы запар над цюльпанам татахнуў пярун. Усё, як днём, яркім святлом залівалі маланкі. Шалеў вецер. Сыпаўся і сыпаўся, нібы з прадранага меха, на зямлю дождж. А чмялю ў хатцы цёпла, утульна.

Пад раніцу навальніца аціхла. А як на балоце закігікалі кнігаўкі, а высока ў чыстым небе заспявалі жаўрукі, развітаўся чмель з цюльпанам, падзякаваў яму за дабрыню і шчырасць дый мядок збіраць паляцеў.



## ЗАЛАТОЕ ПРАВІЛА

Аднойчы, калі на бярозках пачало лісцейка жаўцець, паклікала зайчыха сыноў і гаворыць ім так:

— Восень хутка, дзеткі. Дажджы пойдуць, а там і зіма не за гарамі. Будзем зубамі ляскаць. Давайце хатку да ладу давядзём.

Цягне зайчыха ад рэчкі з меншанькім сынам лазовыя галінкі, а большанькі і не думае ім дапамагаць. Скруціўся клубочкам пад кусцікам ядлоўцу і ляжыць. За сном і свету не бачыць. На другі дзень меншанькі не вытрымаў і пытае брата:

— Дакуль ты будзеш ката за хвост цягаць?

Гэта значыць не рабіць нічога.

— Зубы баляць, аж у мазгі коле, — застагнаў большанькі.

— У цябе заўсёды так, калі трэба за якую работу брацца. То зубы баляць, то галава. Не кожны хворы, хто стогне, — уздыхнуў меншанькі, падняў з зямлі галінкі і да хаткі пацягнуў.

Перазімавала зайчыха ў новай хатцы з сынамі, а вясною і кажа ім:

— Будзем капусту садзіць.





Але зноў не паслухаў маці большанькі сын. Гойсае каля рэчкі за стракозамі, а пра работу і думаць не хоча. А восенню, калі вырасла капуста, так захацелася пакаштаваць яе, што аж слінкі ў роце пацяклі. А меншанькі і кажа яму:

— Э, не, браток. Хто не працуе, той і не есць. Толькі і ведаў ты, што цэлае лета стракоз забаўляць. Хай яны і кормяць цябе за гэта.

Зніякавеў зайка і пайшоў да рэчкі стракоз шукаць. Але ўжо халады пачаліся, зляцелі з рэчкі стракозы. Сядзіць зайка на беразе, думае, што далей рабіць. Пасядзеў так крыху і пайшоў берагам рэчкі. Прайшоў з паўвярсты і бачыць: стары бабёр з шырокім, як лапата, хвастом на цяпельцы юшку варыць, а тры маладзейшыя з берага на дно рэчкі галінкі асіны цягаюць. Запас, значыць, на зіму робяць.



«Ну, — думае зайка, — пашанцавала! Хоць юшкі ўволю наемся, а то кішкі даўно марш граюць». Прымасціўся каля цяпельца і чакае, пакуль бабры вячэраць пачнуць. А бабёр-кухар паглядзеў на яго і пытае:

— Зай, адкуль ты такі затурканы? Добра, пакармлю я цябе, — кажа бабёр. — Толькі спачатку панасі да берага галінкі. Сынам маім дапамажы, а то ўпацелі яны адны, бедныя.

Не хочацца зайку брацца за работу. Закруціўся ён, як юла, дый пытае ў бабра:

— А калі не працуючы пад'есці?

— О, не, зай. У нас, баброў, існуе залатое правіла. Яно і для цябе выключэннем не з'яўляецца.

— А што гэта за правіла? — не стрымаўся, запытаў зайка.

— Хто не працуе — той і не есць. Вось так. Цяпер зразумеў?

— Зразумеў, — незадаволена буркнуў зайка, нехаця падняўся і да сыноў бабра падаўся. Галінкі ім да рэчкі цягаць.

Цэлы тыдзень працаваў у баброў зайка. Ды надакучыла яму, і надумаў ён лягчэйшага хлеба шукаць. Скача зайка па бярэзніку і раптам бачыць звера: поўсць на ім доўгая, буравата-шэрая з чорным адценнем, вушы





невялікія, стаячыя, а на хвасце чорна-бурыя кольцы. «Гэта ж янот!» — здагадаўся зайка. Сядзіць янот на пяньку ля вялікай кучы морквы і хрумстае яе адну за адной. Прыпыніўся зайка, папрасіў у янота моркву пакаштаваць. Той, не спяшаючыся, з пянька злез, павярнуў да яго кароткую з шырокай вострай мордачкай галаву дый кажа:

— Слухай, зай. Пачастую я цябе морквай, але давай спачатку з табой у залатое правіла згуляем.

— Гэта як? Нейкую работу патрэбна зрабіць?

— Маладзец, здагадлівы! — абрадаваўся янот. — Сам ведаеш, што зіма хутка ляжа. А каб морква не прапала, трэба для яе яму выкапаць. Мне аднаму з гэтай работай не справіцца. Так што дапамагай, зай.

Да самага цямна працаваў зайка з янотам. Раніцою янот работніка морквай пачаставаў і кажа:

— Заставайся, зай, у мяне жыць. Удваіх весялей будзе.

— Не, янот, — адказаў зайка. — Рашыў я да маці з братам вярнуцца. Мілы той куток, дзе рэзаны пупок. А ў чужым баку як на пагарэллі.

Сказаў так зайка, развітаўся з янотам і паскакаў дамоў.



# ЧАМУ ВЕРАБ'І ПААСОБКУ СЕЛЯЦЦА

Калісьці даўным-даўно, не за нашай памяццю, яшчэ салаўя і жаваранка, як і нашых бацькоў, на свеце не было, калі цямнець пачало і ў небе дзе-нідзе зоркі праклюнуліся, пралятала над возерам вялікая чарада вераб'ёў.

Раптам шугануў вецер, гром маланкі кідаць пачаў. Страшным зрабілася возера, яно забурліла, забушавала, як кіпень. Такая навальніца ўсхадзілася, што, здавалася, неба вось-вось абваліцца.

Сталі ратавацца вераб'і. Адны ў густыя галіны дрэў пазашываліся, іншыя скокнулі пад лазовыя кусты, якія размытымі плямамі на высокім абрыве цямнеліся.

Прачнуліся вераб'і рана-ранелька. На ўсходзе ўжо сонца ўставала, а на захадзе месяц яшчэ не зайшоў. Неба ад хмар ачысцілася. Абрадаваліся вераб'і, што цёмную мокрую ноч як карова языком злізала.

Неўзабаве і сонейка на небе паказалася. У возеры ныралі, смешна ўзнімалі





ўгору лапкі дзікія качкі крыжанкі. У траве конікі цвірчалі. Цвілі валошкі на полі сінім цветам. Дзьмуў лёгкі ветрык, дрыжалі, як ад страху, дробныя лісточкі асіны.

Каля возера раслі стромкія, з нібы адлітымі з пачарнелай медзі ствaламі сосны. Да самай вады падступалі велічныя, з раскідзістымі, што шацёр, кучомкамі магутныя дубы. Дзе-нідзе сустракаліся выгоністыя, як мачты, бярозы. Яны падпіралі сваімі галінамі чысты блакіт неба, па якім плылі белыя, як пух, аблачынкі.

Вельмі спадабалася вераб'ям возера. Нарабілі яны ў высокім абрыве норак і пачалі жыць у іх.

Тым часам у норках і дзеткі вывеліся. Гадуюць вераб'і дзетак і нарадавацца не могуць. Але прыйшоў такі час, калі іх радасць і мары ў пух і прах разляцеліся.

Аднаго разу, калі на небе яшчэ поўня свяціла, над возерам сіняя ноч стаяла, але да ранку было ўжо блізка, паляцелі вераб'і за кормам для дзетак. А калі назад вярнуліся, то й скамянелі ад гора: у норках ні аднаго верабейчыка не засталі. Толькі кружыліся наўкол з круг-





лымі, ненатуральна вялікімі драпежніцкімі вачыма, заходзіліся ад рогату вароны.

— Як плёткаю абух не пераб'еш, так і нам з варонамі не справіцца, — сказаў стары верабей, важак чарады. — Трэба ляцець адсюль.

Плачуць ад гора вераб'і, з напухлых вочак слёзы коцяцца, ад страху па целе дрыжыкі скачуць.

З гора вераб'і і бусла не заўважылі, які апусціўся каля возера і пачаў жаб лавіць.

Наблізіўся бусел да вераб'інай чарады, пра жыццё спытаў.

— Гора, а не жыццё настала, — хорам адказалі вераб'і. — Як кажуць, бяда сушыць, а шчасце вецер разганяе.

Расказалі вераб'і пра сваё гора буслу і нібы з балота на цвёрдую зямлю выбраліся.

А бусел, пачуўшы такое, адагнаў усмешку з твару, спахмурнеў, адны вочы яго, здавалася, сінелі, як неба зімою, і кажа так:

— Гарбатага толькі магіла вылечыць, так і іх, варон. Калі хочаце, будзеце там жыць, дзе і я. У мяне крыніч-





ка срэбным званочкам звініць. Ні марозы яе не асіляць, ні гарачыня летам. Хаты звонкія з тоўстага смольнага бруса кроплямі загусцелай жывіцы зіхацяць. Раздолле, адным словам.

— Ляцім, вядома, ляцім! — закрычалі вераб'і. Нездарма ж кажуць, што тапелец і за саломінку хапаецца.

Важак чарады на дарогу вераб'ёў перахрысціў, а бусел, нібы паказваючы, што ён слоў на вецер не кідае, на крыло ўзняўся.

Воблачкі бягуць, спяшаюцца, сонейка між іх прабіваецца. А ў блакітназялёным купале ўслед за буслам, стараючыся не адстаць, пакалыхваюцца на крылах, вераб'і ляцяць.

Калі прыляцелі да крынічкі, дзе на ліпе буслінае гняздо было, ужо на лес малінавае сонца апусцілася. Над крынічкаю туманок паплыў, лёгкі і празрысты, як крылы стракозы.

Сталі вераб'і жытло сабе шукаць. Старога вераб'я з вераб'іхаю прытуліў у сваім гняздзе гасцінны бусел. Другая пара пасялілася пад застрэшкам хаты дзеда Васіля. Насупраць, цераз вуліцу, таксама пад застрэшкам, яшчэ





адна пара вераб'ёў сабе куток аблюбавала. А ў садку, у якім дзяўчынка з ружовым бантам на галаве і новенькіх сандаліках кветкі палівала, расла старая яблыня з дуплом. Там таксама два вераб'і прытуліліся.

Неўзабаве і сонца зайшло, але было не вельмі цёмна, бо ўзышоў месяц і заірдзеліся зоркі.

Адным словам, усе вераб'і паспелі да ночы прытулак сабе знайсці. Хто пад застрэшкам хаты, хто ў дуплах дрэў, хто ў шпакоўнях, а хто ў бусліных гнёздах.

З таго часу так і жывуць вераб'і паасобку, варон не баючыся, у адрозненне ад сваіх суродзічаў — ткачыкаў, якія будуюць вялікія, так званыя каланіяльныя гнёзды.



# ЗМЕСТ


Зязюля дзетак шукала ................ 3

Шчодрая вавёрка ....................... 8

Верабей — добрае сэрца ............ 12

Каза і чмялі ............................. 16

Хто прыгажэйшы? ..................... 20

Дуб-задавака ............................ 22

Як каза-няўдаліца
лета праспала ........................... 26

Лясная лекарка ......................... 30

Як непаседа Пракоп
заблудзіўся ............................... 32

Як пчолы ваўка правучылі ......... 36

Жыць — як набяжыць ................ 42

Як вераб'і з бусламі
пасябравалі .............................. 46






Чаму вароны ў вырай
не ляцяць .................................. 52
Апошні палёт .............................. 56
Няпрошаныя госці ....................... 60
Чаму яноту сорамна стала .......... 64
Зайчык і яго сябры ...................... 68
Чужым розумам сыты
не будзеш.................................... 72
Даверлівы попаўзень ................... 78
Як цюльпан чмяля
ад дажджу ратаваў ...................... 82
Залатое правіла .......................... 84
Чаму вераб'і паасобку селяцца ... 88



**Галубовіч, Я.**

Г15 Шчодрая вавёрка : казкі : для дзяцей мал. і сярэд. шк. узросту / Янка Галубовіч ; маст. Юлія Пякіна. — Мінск : Звязда, 2015. — 96 с.

ISBN 978-985-575-018-6.

Напісаныя прыгожай, вобразнай, сакавітай мовай казкі Янкі Галубовіча ўзнімаюць маральныя і філасофскія праблемы і на прыкладзе персанажаў-жывёл вучаць дзяцей любіць прыроду, быць працавітымі, цаніць сяброўства, дапамагаць слабейшым і тым, хто патрапіў у бяду.

Для дзяцей малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.

**УДК 821.161.3-93**
**ББК 84(4Беи)-44**

Літаратурна-мастацкае выданне

**ГАЛУБОВІЧ** Янка (Іван Іванавіч)

**ШЧОДРАЯ ВАВЁРКА**

*Казкі*

Рэдактар *Н. Ф. Крыцкая*
Мастак *Ю. М. Пякіна*
Мастацкі рэдактар *В. Г. Паўлавец*
Камп’ютарная вёрстка *Н. В. Урбановіч*
Стыльрэдактар *Н. Ф. Крыцкая*

Падпісана ў друк 19.01.2015. Фармат 60×90$^{1}/_{16}$.
Папера афсетная. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 6,00. Ул.-выд. арк. 3,73.
Тыраж 1600 экз. Заказ .

Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/8 ад 02.08.2013.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10а, 220013, г. Мінск.

ААТ «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца,
вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск.